МАКСІМ БОГДАНОВІЧ.

# ВЯНОК.





Максім Багдановіч... Гонар нашай літаратуры і не ж боль. Ён так многа зрабіў... І яшчэ больш не паспеў зрабіць. Няўмольная хвароба заўчасна зламала яго. У поўным росквіце таленту паэт памёр у дваццаць шэсць гадоў. Каля яго ложка знайшлі лісток паперы з радкамі:

У краіне светлай, дзе я ўміраю,
У белым доме ля сіняй бухты,
Я не самотны, я кнігу маю
З друкарні пана Марціна Кухты.

Гэтай кнігай быў адзіны прыжыццёвы зборнік вершаў Максіма Багдановіча «Вянок», які адразу стаў нашай класікай. Зборнік «Вянок» выйшаў у 1913 годзе ў Вільні маленькім тыражом і даўно стаў бібліяграфічнай рэдкасцю.

Гэтае факсімільнае перавыданне «Вянка» дасць магчымасць сучаснаму чытачу быццам зноў атрымаць «з друкарні Марціна Кухты» тую самую сціплую і такую цудоўную кнігу нашага Максіма Кніжніка.

# СПІСОК БЕЛАРУСКІХ КНІГ.

(Кніжкі азначэнные *біс*—выйшлі і польскімі і рускімі літэрамі; лічбы азначаюць: першая цыфра — нумэр аддзелу, апошніе—нумэр чароднын у данным аддзелі. Такім парадкам, пры заказах заместа ўсяго загалоўку кнігі, даволі напісаць нумэр, а калі кніга выдана і такімі і сякімі літэрамі—прыпісаць „рускімі“ ці „лацінскімі“.

## I. Да навучаньня.

| | | | Цэна к. |
|---|---|---|---|
| 11 | біс | Беларускі лемэнтар . . . . . . . . . . . | 6 |
| 12 | біс | Першае чытаньне, Цёткі . . . . . . . | 6 |
| 13 | | Другое чытаньне, Коласа . . . . . . . . | 25 |
| 14 | | Karotki katechizm . . . . . . . . . . . . . | 5 |

## II. Навуковые даступные для ўсіх.

| | | | |
|---|---|---|---|
| 21 | | Гутаркі аб небі і зямлі з рысункамі . | 15 |
| 22 | біс | Цукер, В. Тройцы . . . . . . . . . . . | 3 |
| 23 | біс | Гутаркі аб гаспадарцы . . . . . . . . . | 3 |
| 24 | біс | Як ратаваць уздутую жывёлу . . . . . | 3 |
| 25 | біс | Як бараніцца ад халеры . . . . . . . . | 1 |
| 26 | біс | Як рабіць добрые рамовые вульлі . . . | 5 |
| 27 | біс | Зямельная справа у Новай Зэляндіі . . | 3 |
| 28 | біс | Аб гаспадарцы на хутарох і шнурох . . | 5 |
| 29 | біс | Кароткая гісторыя Беларусі—Власта . | 60 |
| 210 | | Беларусы і іх нацыональнае адраджэньне | 5 |
| 211 | | Bł. Andrej Bobola mučynik . . . . . . . | 5 |
| 212 | біс | Як ужываць штучны навоз . . . . . . . | 2 |
| 213 | | Pčalina—żywiołka małaja a karyści daje mnoha . . . . . . . . . . . . . . . . | 30 |
| 214 | | Як багацеюць чэскіе селяне . . . . . . | 10 |
| 215 | | Як выбраць дэпутатоў у Гас. Думу . | 3 |
| 216 | | На дарозі да новаго жыцьця. А. Новіны | 20 |
| 217 | | Alkahol . . . . . . . . . . . . . . . . . | 2 |
| 218 | | Rady dla matak . . . . . . . . . . . . | 3 |

## III. Повесьці, апаведаньня прозай.

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| 31 | | Дым, Конопніцкай . . . . . . . . . . . | | 4 |
| 32 | | Казкі . . . . . . . . . . . . . . . . . . | | 6 |
| 33 | біс | Гэдалі, Э. Ожэшко . . . . . . . . . | — | 6 |
| 34 | біс | Казка аб вадзе . . . . . . . . . . . | — | 3 |
| 35 | | Архіп і Лявонка. Горкаго . . . . . | — | 8 |

МАКСІМ БОГДАНОВІЧ.

# ВЯНОК

## кніжка выбраных вершоў.



ВІЛЬНЯ, ДРУКАРНЯ МАРЦІНА КУТЫ.
1913.

Максим Богданович

ВЕНОК

*Книга избранных стихотворений*

Факсимильное издание

Минск, издательство «Мастацкая літаратура»

На белорусском языке

Падп. да друку 26.12.84. Фармат 60×90 1/16. Папера афс. № 2. Афсетны друк. Ум. друк. арк. 7,50+0,03 укл. Ум. фарб.-адб. 8,75. Ул.-выд. арк. 2,66. Тыраж 20 000 экз. Зак. 1066. Цана 1 р. Выдавецтва «Мастацкая літаратура». 220600, Мінск, праспект Машэрава, 11. Мінскі ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга паліграфкамбінат імя Я. Коласа. 220005, Мінск, Чырвоная, 23.

Б 4702120100—031 / М 302(05)—85

ВЯНОК НА МАГІЛУ
С. А. ПОЛУЯНА († 8
КРАСАВІКА 1910 Г.).

Вы, хто любіце натрапіць
Між страніц старых, пажоўклых
Кнігі, ўжо даўно забытай,
Блеклы, высахшы лісток, —
Праглядзіце гэты томік:
Засушыў я на паперы
Краскі, сьвежые калісьці,
Думак шчырых і чуцьця.

# I

# МАЛЮНКІ І СЬПЕВЫ.

Этотъ листокъ, что изсохъ и свалился,
Золотомъ вѣчнымъ горитъ въ пѣснопѣньи.

*А. Фетъ.*

# Нізка вершоў „У зачарованым царстві“.

O voi, ch'avete gl'intelletti sani
Mirate la dottrina, che s'asconde
Sotto'l velame degli versi strani.

*Dante.* Inf. IX.

* * *

Чуеш гул? — Гэта сумны, маркотны лясун
Пачынае няголасна граць:
Пад рукамі яго, развважаючы сум,
Бытцым тысячы, крэпка нацягнутых, струн,
Тонкаствольные сосны звіняць.

І ці трэба казаць, чаму сціхла рэка,
Не шасьцяць у палёх каласы
І аб чым шэпаціць галасок вецерка
Што зіяе-дрыжыць на лісьцёх лазьняка:
Кроплі сьлёз, ці халоднай расы?

1910.

## ВОЗЕРА.

Стаяў калісь тут бор стары
І жыў Лясун у тым бары.
Зрубалі бор, — лясун загінуў.
Во сьлед яго ад тэй пары:
Сваё люстэрка ён пакінуў.

Маўляў у іншы сьвет вакно
Ляжыць, спакойнас, яно,
Жыцьцё сабою адбівае
І ўсё, што згінуло даўно,
У цёмнай глыбіні хавае.

## НАД ВОЗЕРАМ.

Сонцэ ціха скацілося з горкі;
Месяц белы заплаканы сьвеціць,
Агледае бахматые зоркі,
Цягне з возера срэбные сеці.

У іх русалкі заблуталі косы, —
Рвуць і блутаюць срэбрные ніці
Ноч плыве над зямлёй, сее росы,
Ноч шапочэ русалкам: „засьніце“...

## ВАДЗЯНІК.

Сівавусы. згорблены, я залег між цінай,
І гадамі грэюся — сплю на дне рэкі.
Твар травой аблутана, бытцым павучынай,
Засыпаюць грудзі мне жоўтые пяскі.

Над вадой ля берэга, ціха сьпіць асока,
Ды лаза зялёная жаліцца-шуміць,
Хвалі ціха коцяцца і бягуць далёка, —
І усё навокала сном адвечным сьпіць.

## ЗЬМЯІНЫ ЦАР.

У цёмным небі--хараводы
Сіневатых зорак,
У цёмным небі сьвеціць месяц
Залатым сярпом....
Мы ўжо выйшлі с цесных, душных
Падзямельных норак,
На зімовы цёплы вырай
Цягнемся-паўзём.

У полі, ў лесі нам усюды
Пралеглі дарожкі!
Устужкай рушымся між пушчы,
На сам перад — я.
Зіхацяць маей кароны
Залатые рожкі,
Цёмным блескам адлівае
Уся луска мая.

Нам ня трэба ні ад чога
Ноччу абароны, —
А спаткаем чэлавека,
Порт разсьцеле ён:
Залаты ражок яму
Я ураню с кароны,
І праз белу палатніну
Дальш мы папаўзём.

## БУРА.

Панурая, вялізная жывёла
Па шыры неба ў даль марудна праплывае.
Ўсё сціхла. Але вось паветрэ разсекае
Агністы меч і зіхаціць вясёла.

Ударыў ён — і грукат пракаціўся;
Мігае грозны меч, удары не змаўкаюць,
І ў ніз халодные бічы крыві сьцекаюць,
А людзі кажуць: гэта дождж праліўся.

* * *

Ў небі — ля хмары грымотнай — празрыстая,
[лёгкая хмара
Шпарка плыла, і абедзьве чагось чырванелі
[ад жару.
Зліцца жадалі яны зрабіліся-б хмарай магу-
[тнай,
Але дакёка іх вецер разнёс, наляцеўшы ня-
[чутна.

Дробным дажджом над зямлёй, як сьлезамі,
[адна пралілася;
Гулкім раскатам грымотаў другая ў атказ
[азвалася.
І па асобку загінулі хмары бяздольные тые,
Чуючы ў небі, як вецер над сьмерцьцю іх
[радасна вые.

## ВОЗЕРА.

У чарцы цёмнай і глыбокай
Плешчэ, пеніцца віно;
Хмелем сьветлым і халодным
Калыхаецца яно.

І хістаецца асока,
І шуміць высокі бор,
А ў душы не замаўкае,
Струн вясёлых перабор.

Оглянись — и міръ вседневный
Многоцвѣтенъ и чудесенъ.
*А. Фетъ.*

Прывет табе, жыцьцё на волі!
Над галавой — дубоў павець,
Віднеюць неба, горы, поле
    Праз лісцьцяў сець.

Лахмоцьця ценяў на палянах
Схаваўшы золата ляжаць;
Яго слаі с пад дзір парваных
    Аж зіхацяць.

А к ночы свой чырвоны веер
У небі сонцэ развярне
І разварушэны ім вецер
    У даль памкне.

Калі жэ пабляднее золак
І цёмнай зробіцца вада
Зазьяе серабром іголак
    Зор грамада.

І роўна мілымі зрабіцца
Здалеюць яркі блеск і цень,
Той дзень, што мае нарадзіцца,
    І зніклы дзень.

* * *

Блішчыць у небі зор пасеў;
У полі — рунь, і ў небі — рунь.
Да рэчкі лецючы, ўаляцеў
Між імі марай белы лунь.

Кажан пранёсся на крылах;
Стракочуць конікі ў траве,
Снуюцца мышы па палях,
Здаецца — ўсё вакол жыве.

Жыцьцё чуваць з усіх старон,
Жыцьцём напоўнены ўвесь мрок.
Ці ж загубіў плывучы сон
С чырвоных макоў свой вянок?

* * *

Цёплы вечэр, ціхі вецер, сьвежы стог
Улажылі спаць мяне вы на зямлі.
Не ўстае стаўпом пыл сьветлы ўздоўж дарог,
У небі месяца прагляну́ў бледны рог,
У небі ціха зоркі расцьвілі.

Заварожэны вячэрняй цішыной
Я не цямлю, дзе рука, дзе галава;
Бачу я, с прыродай зліўшыся душой,
Як дрыжаць ад ветра зоркі на да мной,
Чую ў цішы, як расьце трава.

* * *

Добрай ночы, зара-зараніца!
Ўжо імгла над зямлёю лажыцца,
Чорнай рызай усё пакрывае,
Пылам зор небасхіл абсевае.
Цішыня агартае мне душу!
Вецярок прыдарожную грушу
Ледзьве чутна варушэ — калышэ,
Міла бомы сьмяюцца у цішы,
Ціха срэбрам грукае крыніца.
Добрай ночы, зара-зараніца!

* * *

Ціха па мяккай траве
Сінявокая ноч прахадзіла;
    Ціха з заснуўшых палян
Плыў у гару і знікаў,
Бытцым дым сіневаты с кадзіла,
    Рэдкі правідны туман;
Неба ўсю глыбь ажывіўшы,
Патроху праз цемнь выглядалі
    Зорак дрыжачых вянкі;
Конікі суха зьвінелі;
Шырэй разліваліся хвалі
    Цёмнай, люстранай рэкі;
Пала раса; у палёх
Загарэліся пацеркі мілых
    Жоўта-чырвоных агнёў...
Час, калі трэба журыцца
Душою на сьвежых магілах
    Пуста пранёсшыхся днёў.

* * *

Вечэр на захадзе ў попелі тушыць
Кучу чырвоных кавалкоў вугля;
Ціха ўсё; вецер лістка не зварушыць,
Не скалыхнуцца ні траўкай паля;
Цёмныя цені даўжэй у лагчыне,
Птушкі прыстаўшай марудней палёт;
Сумна плыве маладзік бледна-сіні
У небі вячэрнім, зялёным, як лёд;
Іскрацца зорак сьняжынкі маркотна,
Збожжэ пакрылося шызай расой...
Кіньмо жэ думкі аб долі гаротнай,
Хоць бы на момэнт спачынем душой!

## СОМНАМБУЛ.

Месяц выплыў над змрочнай, заснуўшай
[зямлёй
І павёў яго ў цёмную даль за сабой
І прывабіў да мглістай, халоднай вады, —
Сэрцэ білося рыбкай у сеці тады.
Але месяц правёў праз рэкі сьветлы шлях
І развеяўся з сэрца дрыжачаго жах.
Зіхацела яна — сэрэбра пуціна,
Увадзіла ў той край, дзе пануе весна.
Доўга, доўга цябе ён чэкаў і шукаў,
Але вось час жаданы нарэшці настаў...
І пайшоў ён па шляху, пайшоў аж да дна:
Агарнула яго цішына, глыбіна.

* * *

Цвѣты осенніе милѣй
Роскошныхъ первенцовъ полей.
*А. Пушкинъ.*

Плакало лета, зямлю пакідаючы;
Ціха ліліся сьлязінкі на поле,
Але прыгожаю восеньню яснаю
Там, дзе упалі яны, вырасталі
Кветкі асеньніе, кветкі, ўспаённые
Тугаю, горэм, сьлязінкамі лета. —
Кветкі асеньніе, родные, бледные!
Вырасьлі вы, каб ураз жэ і згінуць.
Можэ таму-то душа надарваная
Гэтак любоўна вянок з вас сплетае.

* * *

Дзесь у хмарах жывуць павукі
Што снуюць павучыну дажджа.
Кожны тлусты і мяккі такі,
Скура сьлізкая, як у вужа,
Ў целі стыгне халодная кроў,
Злосьць бязцэльная ў круглых вачах...
Чу! Чуваць шорах ног павукоў
Аплетаючых сьцены і дах.

## РАЗРЫТАЯ МАГІЛА.

Polatuj nad groby,
Piosenko żałoby.
*Żygliński.*

Дробны дождж сячэ, ліецца;
Вецер злосна ў хату рвецца,
У полі стогнам аддаецца,
Стукне ў дзьверы і вакно; —
Сэрцэ беднае заб'ецца
І адразу ў ім прачнецца,
І адразу скалыхнецца
Усё што згінуло даўно.

Ўспомніць сэрцэ, што любіло,
Успомніць моладасць і сілу,
Ўсё, што знікло і уплыло,
Усё успомніць, як у сьне, —
Бачу: сэрцэ не забыло,
Што жыцьцё ў ім загубіло...
І разрытаю магілай
Вее сумна на мяне.



Ноч. Газьніца гарыць, чырванее,
І гарбата, астыўшы, стаіць.
За сьцяной запявае завея,
Сумна бомамі ў полі зьвініць.
С краю ў край яе гул аддаецца,
І чагось усё думаю я,
Што з няволі зімовай там рвецца
Крэцка скутая сьнегам зямля:
Грудзі моцные цяжка ўздымае,
Ветрам вее, як дыхаць пачне,
Сьнег халодны ў палёх калыхае,
І вось-вось свае путы страхне.

## ЗІМОВАЯ ДАРОГА.

Шпарка коні імчацца у полі
Сумна ѳомы гудзяць пад дугой,
Запеваюць аб долі і волі,
Навеваюць у сэрцы спакой.

Ўюцца зьмейкай срэбрыстай дарожкі,
Брызгі золата ў небі блішчаць,
І маркотные месяца рожкі
Праз марозную мглу зіхацяць.

Поле нікне у срэбным тумане,
Сьнег блішчыць, як халодная сталь,
І лятуць мае лёгкіе сані,
Унашуся я ў сінюю даль.

## ЗІМОЙ.

Здароў, марозны, звонкі вечэр!
Здароў, скрыпучы, мяккі сьнег!
Мяцель ня вее, сціхнуў вецер,
І волен лёгкіх санак бег.

Як мары, белые бярозы
Пад сінявой начной стаяць.
У небі зоркі ад марозу
Пахаладзеўшые дрыжаць.

Вільготны месяц стуль на поле
Празрысты, сьветлы стоўп спусьціў
І рызай срэбнаю раздольле
Сьнягоў сінеючых пакрыў.

Ўзрывайце-ж іх санямі, коні!
Зьвіні, вясёлых бомоў медзь!
Вакол лятуць бары і гоні,
Ў грудзях пачала кроў кіпець.

## ПЕРАД ПАВОДКАЙ.

Праясьняецца пагода,
Бо вярнулася весна.
Ўсё чакаеш, што прырода
Ўстрэпянецца ада сна.

І пад птушчы крык і гоман,
Даўшы хвалям вольны ход,
Прыцадыйме бацька Нёман
На хрыбце магутным лёд.

Зазьвіняць жалобна крыгі,
І бурлівая вада
Сьнег, размоклы ў час адлігі,
Змые з луга без сьледа.

Дык разлійся-жэ раздольна
Ў чыстым полі і гаю,
І красой паводкі вольнай
Душу выпрастай маю!

* * *

Падыймі у гару сваё вока
І ты будзешь ізноў, як дзіця,
І адыйдуць-адлынуць далёка
Ўсе трывогі зямнаго жыцьця.

Ціха тучу блакіт закалыша,
У душы адрасьце пара крыл,—
Узляціць яна ў сінюю вышу
І ў струях яе змые свой пыл.

Там ня трэба ні шчасьця, ні ласкі,
Там німа ні нуды, ні клапот.
Ты — царэвіч цудоўнае казкі,
Гэта хмара — дыван самалёт!

De la musique avant toute chose.
*P. Verlaine.*

Па над белым пухам вішняў,
Бытцым сіні аганёк,
Бьёцца, ўёцца шпаркі, лёгкі
Сінякрылы матылёк.
    Навакол усё паветрэ
    Ў струнах сонца залатых, —
    Іон дрыжачымі крыламі
    Звоніць ледзьве чутна ў іх.
І ліецца хваляй песьня, —
Ціхі, ясны гымн вясьне.
Ці ня сэрцэ напевае,
Навевае яго мне?
    Ці ня вецер гэта звонкі
    Ў тонкіх зёлках шэпаціць?
    Або мо сухі, высокі
    Ля рэкі чарот шуміць?
Не паняць таго ніколі,
Не разведаць, не спазнаць:
Не даюць мне думаць зыкі,
Што лецяць, дрыжаць, зьвіняць.
    Песьня рвецца і ліецца
    На раздольны, вольны сьвет.
    Але хто яе пачуе? —
    Можэ толькі сам паэт.

# РОМАНС.

Quand luira cette etoile, un jour,
La plus belle et la plus lointaine,
Dites-lui qu'elle eut mon amour,
O derniers de la race humaine.
*Sully Prudhomme.*

Зорка Вэнэра ўзыйшла над зямлёю
Сьветлыя згадкі с сабой прывела...
Помніш, калі я спаткаўся с табою,
Зорка Вэнэра ўзыйшла.
З гэтай пары я пачаў угледацца
Ў неба начное і зорку шукаў.
Ціхім каханьнем к табе разгарацца
З гэтай пары я пачаў.
Але разстацца нам час наступае;
Пэўна, ўжо доля такая у нас.
Моцна кахаў я цябе, дарогая,
Але разстацца нам час.
Буду ў далёкім краю я нудзіцца
Ў сэрцы любоў затаіўшы сваю;
Кожную ночку на зорку дзівіцца
Буду ў далёкам краю.
Глянь іншы раз на яе, у разстаньні
Там з ёй зліём мы пагляды свае...
Каб хоць на міг уваскрэсло каханьне,
Глянь іншы раз на яе...

## ДОСІ ЎЖО ПРАЦЫ.

Гэй, варушыцеся коні панурые,
Досі ўжо працы, бо сонцэ зайшло!
Ярка-чырвоные, жоўтые, бурые
Боразны ў небі яно правяло
Хутка ўжо зоркі зірнуць сіневатые,
Месяц пакрые паля палатном...
Досі ўжо! З вамі вярнуся да хаты я
І пазабудуся сном.

## Нізка вершоу „Згукі бацькоушчыны“.

* * *

Ўся ў сьлезах, дзяўчына
Хіліцца да тына.
Поруч з ёю пад расою
Зіхаціць шыпшына.

Вецер павевае
І расу страхае
Ой, напэўна і дзяўчына
Лек на сьлёзы мае.

Адгадайце-ж, людзі,
Хто страхаць іх будзе
І чаму ён, жоўтадзюбы,
Аж дасюль марудзе?

* * *

Сумна мне, а ў сэрцы смутак ціха запевае:
„Сьцежка ў полі пралегае траўкай зарастае.
Каля сьцежкі пахіліўся явар да каліны,—
Там кахаліся калісь-то хлопец і дзяўчына.
Ой, ішла дарога долам, ды ішла і горкай,—
Не схавалася дзяўчына ад тэй долі горкай:—
Бо ляжыць яе дарожка, траўкай зарастае;
Сумна глянуць, цяжка бачыць, жаль душу
праймае“.

* * *

Ня кувай ты, шэрая зязюля,
Сумным гукам у бары;
Мо і скажэш, што я жыці буду
Але лепш не гавары.
Бо ня тое сьведчыць маё сэрцэ,
Грудзі хворые мае;
Боль у іх мне душу агартае.
Думцы голас падае.
Кажэ, што нядоўга пажыву я,
Што загіну без пары...
Прыляці-ж тады ты на магілу,
Закувай, як у бары.

## ЯН І МАЦІ.

Ты стамілася, змарнела, сьлёз праліла рэчку.
Што-ж, пастаў прэд абразамі, запаліўшы, сьвечку:
Мо паможэ Яну гэты сьвет і пацер словы...
Асьвяціла сьвечка з воску хлопца твар васковы.
Тае воск і ў ніз ціхутка капелькі сцекаюць,
А ў вачах збалелых Яна сьлёзы праступаюць.
Сьвечка сьвеціць, сьвечка зьяе, свечка дагарае,
І ў панурай, цеснай хаці хлопец памірае.
Ой, ня век жэ сьвечцы тонкай зіхацець, гарэці.
Дагарыць яна і знікне, як і ўсё на сьвеці...

* * *

Сэрцэ ные, сэрцэ кроіцца ад болю:
Ой, пайду я с цеснай хаты ў тое поле.
Ў чыстым полі вецер все, павевае,—
Ты пакінь мяне, нуда мая немая!
Я тады-б у песьні звонкай, салаўінай
Выліў тугу і на вецер буйны кінуў,
І развеяў бы яе ён па раздольлі,
Каб ні ўбачыць мне ніколі ўжо нядолі.

## ВЕЧЭР.

Месяц круглы ўстаў на небі,
Бліщчыць не высока,
Ўвесь чырвона-жоўты, бытцым
Пугачова вока.
З мілым, задушэўным зыкам
Важкі хрушч летае;
Пра несшчаснае каханьне
Нехта запевае.
Голас полем пракаціўся,
У бары аддаўся:
„А дзе-ж тая крынічэнька,
„Што голуб купаўся?"—
І снуюцца сумна ў сэрцы,
Ўюцца адгалоскі
Горкай песьні, простай песьні
Беларускай вёскі...

# Нізка вершоу „Старая Беларусь“

Усё прайшло, мінула
Як і не было,
У канцох пасвула,
Зельлем зарасло.
*Я. Купала.*

## ЛЕТАПІСЕЦ.

„Душой стаміўшыся ў жыцьцёвых цяжкіх бурах,
Свой век канчаю я у манастырскіх мурах
І пільна летапісь другі ўжо год пішу:
Старанна літэры малые вываджу
І спісваю усё ад слова і да слова
З даўнейшых граматак пра долю Магілёва.
І добрые яго, і кепскіе дзела
Апаведаю тут. Так рупная пчэла
Умее ў соты мёд сабраць і з горкіх кветак.
І бачэннаму мной—-я годны веры сьведак.
Хай тые ведаюць, што з'явяцца па нас,
Ўсю праўду пра жыцьцё у наш і пройшлы час,
Пра войтоў, лаўнікоў, і райцоў і паспольства,

Пра розных каралёў, і бітвы і пасольсва.
Што тут чынілося у даўные гады.
Што думалі, чаго бажалі мы тады,
За што змагаліся, як баранілі веру,—
Хай зьведаюць усё патомкі праз паперу!
Яно забудзецца, умрэ, з вадой сплыве,—
І вось у спомінах устане, ажыве,
Калі знайдуць мае ня хітрае пісаньня,
Пра гэтае жыцьцё, надзеі, справаваньня.
Так мора— ў Гданску я чуваў—прымчыць вадой
Бутэльку к бэрэгу, аблітую смалой,
Ўсю ў дробных ракоўках і ў ціне. Не замала
Яна была ў вадзе і шмат чаго спаткала.
Рыбалкі вылавяць бутэльку, разаб'юць,
І, як трапляецца, быць мо у ёй знайдуць
Ліста. Па звычаю марскому гэтак весьці
Нам, утапаючы, шлюць людзі. Ў моры гдзесьці
Загінулі яны, і, можэ, соткі год
З тых часоў працяклі, і згінуў іх народ,
І ўсё зьмянілося і ўжо пра іх забылі.
Вы літэры, цяпер нанова ўсё збудзілі!
І людзі зьведаюць аб прадзедах сваіх
Аб горы, радасьцях і аб прыгодах іх,
Каму маліліся, чаго яны шукалі,
Дзе на глыбокім дне іх крыюць мора хвалі".

## ПЕРАПІШЧЫК.

На чыстым аркушу, прад вузенькім вакном,
Прыгожа літэры выводзіць ён пяром,
Ўстаўляючы паміж іх чорнымі радамі
Чырвоную страку; усякімі цьветамі,
Рознакалёрнымі галоўкамі зьвяроў
І птах нявіданных, спляценьнем завіткоў
Ен пакрашае скрозь—даволі ёсць знароўкі.
Свае шматфарбные застаўкі і канцоўкі,
І загалоўкі ўсё,—німа куды сьпяшыць!
Парой ён спыніцца, каб лепі завастрыць
Пяро гусінае, і гляне: сьветла сонцэ
Стаўпалі падае праз вузкае ваконцэ
І круціцца у іх прыгожы, лёгкі пыл;
Як сіневаты дым нявідзімых кадзіл,
Рой хмарачэк плыве; шырокімі кругамі
У небі ластаўкі шыбаюць над крыжамі
Як жар гарашчымі; а тут, каля вакна,
Маліноўка пяе і стукае жаўна.

І зноў ён схіліцца, застаўку зноў выводзіць
Неяркім серабром; нячутна дзень праходзіць,
Ўжо хутка будзе ноч і першая гвезда
Благаславіць канец прыгожага труда.

## КНІГА.

Псалтыр, пакрытую няжорсткай, бурай ко-
жай
Я ўзяў і срэбные засьцёжкі адамкнуў
Перачытаў рады кірыліцы прыгожай,
І воску з ладанам прыемны пах пачуў.

Вось псальма сьлічная: „Як той алень шукае
Крыніцы чыстай, так шукаю Бога я“.
Як все сьвежасьцю яе краса жывая!
Як радасна ўсё дальш сьпяшыць душа мая!

І бачу я ў канцы няхітраю прыпіску,
Што. „кнігу гэтую, раб Божы, дзяк Гапон
Дзеля душы спісаў у месту Воўкавыску
У рок сем тысяч сто васьмы с пачатку дзён“.

## СЛУЦКІЕ ТКАЧЫХІ.

Ад родных ніў, ад роднай хаты
У панскі двор дзеля красы
Яны, бяздольные, узяты
Ткаць залатые паясы.
І цягам доўгіе часіны,
Дзявочые забыўшы сны,
Сваё шырокіе тканіны
На лад пэрсідзкі ткуць яны.
А за сьцяной сьмяецца поле,
Зіяе неба з-за вакна—
І думкі мкнуцца мімаволі
Туды, дзе расьцвіла весна,
Дзе блішчэ збожжэ ў яснай далі,
Сінеюць міла васількі,
Халодным срэбрам з'яюць хвалі
Між гор ліючэйся рэкі.
Цямнее край зубчаты бора...

І тчэ, забыўшыся, рука
Заміж пэрсідзкаго узора
Цьвяток радзімы васілька.

## БЕЗНАДЗЕЙНАСЬЦЬ.

Скарына, доктар лекарскіх навук,
У доўгай опратцы на вежы сочыць зоры.
Яны спрыяюць! Час! З рухавых рук
Скарыны пье адвар пан земскі пісар хворы.
І ўраз пабачыў ён, што ізумруд
Ў пярсьцёнку залатым на пальцы штось
імгліцца,
Што блеску ў ім німа... І з болем тут
Ен зразумеў, што ўжо к жыцьцю не вара-
ціцца.

* * *

Ціхі вечэр; знікнула сьпякота,
Весялей струіцца між чарота
Рэчка, што ўцекае у ставок;
Ўкруг яго ідзе вярбін вянок
Йшчэ зялёных, сьвежых, хоць каравых;
Плесьня каля бярэгоў іржавых
Саматканым поясом ідзе
І лілеі расцвілі ў вадзе;
Часам з візгам ластаўка малая
Пранясецца нізка, і чэркае
Крылечкам з разгону гладзь стаўка.
Налякаўшы гэтым матылька.
Часам лін ці окунь усплясвуцца
І кругі шырока разыйдуцца;
Часам выпаўзаюць палежаць
Тут вужакі шэрые на гаць,
У канцы каторай млын схіліўся;
Спарахнеў ён, ледзь не разваліўся.
Пачарнела кола і даўно
Мохам цёмным абрасло яно.
Але сёньні ходзіць кола млына,
Бо прыйшла да млынара дзяўчына,
Каб мог сукруху с сэрца збыць.
У белай опратцы яна стаіць,
Нахіліла смуглую галоўку
І чуваць, як сэрца праз шнуроўку
Часта б'ецца. А стары млынар

Тройчы брызнуў ёй вадой на твар
І, уставіўшы на хвалі вочы,
Прыглушоным голасам шапочэ:
„Пакланюсь я табе, царыца,
Чыстая, сцюдзёная вадзіца.
Ты цячэш балотамі, імхамі,
Жоўтымі, сыпучымі пяскамі,
Бэрагі крутые падрываеш,
Дрэвы ды камні падмываеш
І нясеш іх к мору-акіяну,
К выклятаму востраву Буяну.
Там і вецер буйны не гуляе,
Там і сонцэ краснае не зьяе
Там ня блішчэ ясная зараніца.
І прыносіш ты туды, вадзіца,
Важкі сум ад сэрца Кацярыны.
Я навокал абваджу тры тыны,
На замок іх моцна замыкаю,
Ключ у морэ-акіян кідаю.
Як са дна ключу ўжо не падняцца
Так і гэтым словам не мінацца".

І падносіць млынару дзяўчына
Яек рэшата й палатніну.

* * *

Па ляду, у глухім бары,
Дзе, ля ральлі стаяць тры хаты,
Мужык ідзе,—на сьвітцы латы,
А сам няхібкі, хоць стары,

С чупрынай, белаю, як лунь,
І [illegible] барадою сьнегавою,
Зямлёй прапахшы і сасною,
Ен пільна ўсё глядзіць на рунь.

„А каб ты здох!“ Бач, па расе
Хтось трапіў к збожжу ад крыніцы;
Ды вось і вузкі сьлед капытца:
Алені тут былі ў аўсе.

Ўсё зьнішчуць, падлы, хоць ня сей,—
Не дачакаеш умалота!
А тут ешчэ цераз балота
Не прабярэшся да людзей.

Снуюцца хмарай камары;
Кішмя-кішаць у зёлках гады;
Падшывам абрастаюць ляды...
Зьвядуць, зьвядуць людзей бары.

Даўно пачаў „хадзяін“ дбаць,
Каб пушча тут была нанова,
Ды толькі ведае дзед „слова“,
А то дабра бы не зазнаць.

# Нізка вершоу „Место“.

Ты — чарователь неустанный,
Ты — не слабѣющій магнитъ
*В. Брюсовъ.*

## Ўступ.

Зьвярнуў калісь Пэгас на вулкі
С прывольных, палявых дарог, —
І пракаціўся топат гулкі
І іскры сыпнулі с пад ног.

У грудзі кволые запала,
Дачка каменьняў, места мне.
Пачую я тэй іскры жала
І верш аб месьце з сэрца мкне.

* * *

Вулкі Вільні зіяюць і гулка грымяць!
Вір людзкі скрозь заліў паясы тротуароў,
Блішчаць вокны, ліхтарні ў гары зіхацяць
І гарэць аганьком вочы змучэных твароў!

А завернеш ў завулак — ён цесны, крывы;
Цёмны шыбы глухіх, старасьвецкіх будынкаў;
Між каменьнямі-мох і сьцяблінкі травы,
І на вежы, як круглае вока савы,
Цыфэрблят—пільны сьведка мінулых учынкаў.

Ціша тут. Маўчаліва усталі — і сьняць
Ў небі копулы, брамы, байніцы і шпіцы;
Грук хады адзінокай здалёку чуваць,
Часам мерные ўдары звана задрыжаць
І замоўкнуць, памкнуўшы ад старай званіцы.

Ўспамяні маё сэрцэ, даўнейшые дні!
Па загаду бурмістра усе, як належэ,
Зачынілі ўжо вокны, загасілі агні...
Варта вулкай прайшла... І ня сьпім мы адны—
Я, ды чорны кажан, што шнуруе ля вежы.

## У ВІЛЬНІ.

*(Сонэт).*

Ліхтарняў сьвет у сіняй вышыне...
Вітрыны... морэ вывесак... як плямы
Аннонсы і плакаты на сьцяне.
Кіпіць натоўп на жорсткім вулак дне!
Снуюць хлапцы, суюшчые рэкламы...
Разносчыкі крычаць ля кожнай брамы...
Грук, гоман, гул, —усё ракой імкне.

А дальш — за радам касс, ламбардаў, банкаў, —
Агні вакзала.. павадка хурманкаў...
Віры людзей... сіпяшчы паравоз ..
Зялёны семафор... пакгауз... склады...
Заводаў коміны пад цьмой нябёс...
О, горада чароўные прынады!

* * *

За дахамі места памеркла нябёс пазалота;
Паветрэ напоена ціха гусьцеючым мрокам;
Ўжо відна, як іскры зьлетаюць с трамвайнаго дрота,
Як зоркі гарaць і зрываюцца ў небі далёкам.

Музыкі стагнаньне ліецца па вулках з бульвара;
Гарaць і агнём машкару к сабе вабяць ліхтарні;
Ўкруг тоўстаго шкла яна ўёцца як лёгкая хмарка.
А к сьветлу прабіцца ня можэ і томіцца марна.

І ўспомініў я час: срэдзь восеннай нахмурэнай ночы
Музыка зайграла, агні ў вышыне запылалі,
Ўдыхалі грудзі шырока, сьвяціліся вочы...
Мы к сьветлу ўзляцелі... і шкло ўкруг яго напаткалі.

* * *

На глухіх вулках — ноч глухая,
Ня менш глухі людзкі натоўп.
Дык хто-ж пачуе, як сьпевае,
Як стогне тэлеграфны стоўп?

І места, дзе німа прастора
Дзеля прыроды буйных сіл,
Прабіло сьцежку мору гора
Палёў, лясоў, капцоў магіл.

Палёў, дзе круціць завіруха,
Ўзрываючы халодны сьнег,
Палёў, дзе ўсё бушуе глуха,
Дзе чутны разам стогн і сьмех!

І вось той гул мне ў душу ўліўся.
Гудзі, гудзі, дрыжачы дрот!
Ўвесь бледны, млосны прыхіліўся
Я ля ліхтарні да варот.

## ЗАВІРУХА.

У бубны дахаў вецер бье,
Грыміць па ім, зьвініць, пяе.
І спеў ліецца ўсё мацней, —
Гулянку справіў пан Падвей.
У бубны дахаў вецер бье,
Грыміць па ім, зьвініць, пяе.
Ўскіпела сьнежнае віно
І белай пенай мкне яно.
У бубны дахаў вецер бье,
Грыміць па ім, зьвініць, пяе.
Па вулках вее дзікі хмель,
Гудзіць сьпьянелая мяцель.
У бубны дахаў вецер бье,
Грыміць па ім, зьвініць, пяе.

* * *

Сеў хлопчык с шкляначкай ля вулічнага ганку
І выдувае з мыла пузыры.
Вясёлкаю гарацъ яны ў зіяньні ранку,
Ўзлетаючы ў паветрэ да гары.

І заварожэны шматфарбнаю красою,
Са спрытнасьцю і хцівасьцю ката
Хапае хлопчык іх няжорсткаю рукою,
А застаецца ў ёй—адна слата.

* * *

Ад сьпекі пышуць дахі і асфальт,
На вуліцы ўёцца пыл і грукаціць хурманка,
„Каробушку“ пяе дзіцячы альт
І надрываецца абрыдлая шарманка.

Хаця бы крышку часу адпачыць!
Мо на бульвар пайсьці, сесьць на далёкай
лаўцы
Здрамнуць, газэту сьвежую купіць
І прачытаць усё да імені выдаўцы?

# ДЗВЕ СЬМЕРЦІ.

Учора на Мешчанскай вул. д. № 17 атруцілася сінільным квасам І. І. Іванова. Прычыны самагубства не вядомы.

Калі патрыцій сьмерць с прыветам спатыкаў
Прабіўшы жылы на руках,
Дрыжэлі сьпевы флейт, дзень ясны дагараў,
А праз вакно струёю вецер павеваў
І... мігдаловы горкі пах.

Ты, грозны жэрэбій, учора ўзяты зноў,
На срога сьціснутых губах
Ня мгліцца люстра гладзь; застыгла ў жылах кроў;
Скрозь вее цяжкі дым ад спаленых лістоў
І... мігдаловы горкі пах.

# Думы.

Съ Израилем пѣвцу одинъ законъ:
Да не творитъ себѣ кумира онъ.
*Е. Баратынскій.*

De quelque mot profond tuot homme est le disciple

## С. Е. ПОЛУЯНУ.

Глянь, як зорка у цемні ляціць
Ўсіх чаруючы сьветлам сваім,
Бытцым зьмей залаты зігаціць
І стухае у небі глухім.
Але ўспомніць ешчэ зорку сьвет
Бо у сэрцах гарыць яе сьлед.
Так свабодна, так ярка пражыць —
Лепшай долі німа на зямлі.
Ўсё кругом на мамэнт асьвяціць
І пагаснуць у цёмнай імглі.
Ўсё зьнікае, праходзіць, як дым,
Сьветлы-ж сьлед будзе вечна жывым.

## КАГАНЦУ.

Змоўк песьняр, затаіў свае шчырые песьні,
Ен іх болі ужо не пяе.
Але рвуцца яны і калісь на прадвесьні
Лёд халодны ў душэ пад напорам іх
трэсьне
І струёй лынуць вершы з яе.

Гэтак часам уходзіць у землю крыніца,
Дзесь у нетрах таёмна бяжыць,
Але мусіць урэшці на волю прабіцца.
Шмат ешчэ па зямлі будзе ліцца — каціцца
І радзімаму краю служыць.

## УПАЛІ З ГРУДЗЕЙ ПАНА БОГА...

Упалі з грудзей Пана Бога,
Парваўшыся, пацеркі зор.
Яны раскаціліся ў небі,
Усыпалі сіні прастор
І стуль так маркотна і пільна
На край мой радзімы глядзяць...
Што-ж там яны, ясные, бачуць?
Чаго ўсё дрыжаць і дрыжаць?...

## КРАЮ МОЙ РОДНЫ! ЯК ВЫКЛЯТЫ БОГАМ...

Краю мой родны! Як выкляты Богам —
Столькі ты зносіш нядолі.
Хмары, балоты... Над збожэм убогім
Вецер гуляе на волі.

Поруч раскідаліс родные вёскі.
Жалям сцікаюцца грудзі! —
Бедные хаткі, таполі, бярозкі,
Ўсюды панурые людзі...

Шмат што зрабілі іх чорные рукі,
Вынясьлі моцные сьпіны;
Шмат іх прымусілі выцярпець мукі
Пушчы, разлогі, нізіны.

Кінь толькі вокам да гэтаго люду —
Сцісьнецца сэрце ад болю:
Столькі пабачыш ты гора усюды,
Столькі нуды без патолі.

Песьня цяе, як удовіна сына,
Янку, каханьне згубіло:
Там дзе панура схілілась каліна,
Беднаго хлопца магіла.

Ў гутарках-казках аб шчасьці, аб згодзе
Сэрцэ навін не пачуе.
Сціснуло горэ дыханьне ў народзе,
Горэ усюды пануе.

Хваляй шырокай разлілось, як морэ,
Родны наш край затапіло...
Брацьця! Ці зможэм грамадзкае горэ?!
Брацьця! Ці хваце нам сілы?!

* * *

Халоднай ноччу я ў шырокім, цёмным полі
Каля огнішча лёг і сціхнуў у паўсьне.
Агонь усё слабеў... урэшці знік паволі...
І ўраз зрабілося вясёла нейк мне!..
Хай, шэры попел, ты агнішчэ ўсё сабою
Ў нядоўгі час здалеў, як рызаю, пакрыць,—
Я ведаю, што там агонь дрыжыць пад ёю,
Я ведаю, што там чырвоны жар гарыць...
Хай чэрэда гадзін панурых, нудных, шэрых,
Як попел, на душу мне клалася ўвесь час,
Хаваючы сабой агонь гарачы веры, —
Хай не відаць яго... а ўсё-ж ткі ён не згас!

* * *

Кінь вечны плач свой аб старонцы!
Ня ўжо жэ цёмнай ноччу ты
Не бачыш, што глядзіцца сонцэ
Ў люстэрка—месяц залаты?
Не згасла сонцэ! Сонцэ гляне,
Усіх падыйме ада сна.
Ён, гэты дзень, ешчэ настане,—
І ачунее старана!
Я пад яе зімовай маскай,—
Пад сьнегам,—бачу твар вясны,
І вее верш мой дзіўнай казкай,
І ясны ён, як зорак сны.

* * *

Зрэзаюць галіны таполі адну за адной...
Без скаргі яны на зямлю чэрадою лажацца,
Бо сьмерць іх патрэбна, каб дзерэва новай
вясной
Магло бы хутчэй развівацца.

Таварышы-брацьця! Калі наша родзіна-маць
Ў змаганьні з нядоляй патраціць апошніе
сілы,—
Ці хваце нам духу ў час гэты жыцьцё ёй
атдаць,
Без скаргі ляечы ў магілы?!

* * *

Рушымся, брацьця, хутчэй
Ў бой з жыцьцём накідаючы жах;
Крыкі пужлівых людзей
Не стрымаюць хай бітвы размах...

Проці цячэньня вады
Зможэ толькі жывое паплыць,
Хвалі-ж рэкі заўсягды
Тое цягнуць, што скончыло жыць.

* * *

Нашых дзедоў душылі абшары лясоў,
Не давалі ім жыці праўдзівым жыцьцём,
І яны тые пушчы звадзілі агнём,
Іх кругом падпаліўшы з далёкіх канцоў.

І пылалі па нашаму краю лясы,
Покуль сонцэ здалело ўсё ў ім асьвяціць;
І сьвятлей і прасторней тады стала жыць,
А на попелі буйна ўзрасьлі каласы.

З гэтых дзедоў суворых прыклад нам бы ўзяць, —
Не хіліцца з бяды, не пужацца агня,
Бо мы толькі тады дачэкаемо дня,
Калі нас не здалее змаганьне злякаць.



Ўстань, навальніца, мкні нанова,
Ўзвый вецер з ёю за адно!
У віхру уляціць палова,
Пакіне чыстае зярно.
Удар, цыклон, удар на морэ,
Цалуй яго ў глухое дно,
Ўсьплясьні ваду—і пэрлаў горы
На берэг выкіне яно.

* * *

Не бліпічыць у час змерканьня і ў глыбокай цемні ночы
Дыямант каштоўны,
Але белым днём красою нам чаруе, вабіць вочы
Блеск яго цудоўны.
Бо калі на гэты камень упадзець праменьня сонца,
Ўраз ён блісьне даіўна
І вясёлкавые іскры разсыпаць пачне бязконца
Ярка, пераліўна.

Так здаецца ў змроку ночы цёмным і народ мой родны,
Бедны і нешчасны;
Але, як устане сонца, ўраз прачнецца дух народны,
І засьвеціць ясна!

* * *

Напілося сонцэ са крыніц сцюдзёных,
Усьцягнуло ў вышу з іх ваду як пар;
І ўзляцеўшы шпарка па праменьнях тонкіх
Пар зрабіўся сьлічнай чэрадою хмар.

Ўдаль яны памкнулі і лятуць пад імі
Нівы ды балоты, поле, бор, лука.
Але што там блішчэ? Ці ня ты, сястрыца,
Ці ня ты ліешся срэбная рэка.

Загрымелі ў хмарах гулка прывітаньня
І далёка буйны вецер іх разнёс.
Рынуліся хмары да рэкі радзімай
І зьліліся з ёю ліўнем кропель-сьлёз.

*
*  *

Ой, чаму я стаў паэтам
Ў нашай беднай старане?
Грудзі ныюць, цела вяне,
А спачыць ня можна мне:
Думкі з розуму ліюцца,
Пачуцьцё з душы бяжыць...
Мо за імі кроў пальнсе
І тады ўжо досі жыць!

* * *

Даўно ўжо целам я хварэю,
І хвор душой, —
І толькі на цябе надзея,
Край родны мой!
У родным краю ёсць крыніца
Жывой вады.
Там толькі я змагу пазбыцца
Сваей нуды.
Калі-ж у ім умру—загіну,—
Не жалюсь я!
Ня будзеш цяжкая ты сыну
Свайму, зямля.
Там хоць у гліне, хоць у брудзе,
Там пад зямлёй,
Найдуць мае слабые грудзі
Сабе спакой.

* * *

Калі зваліў дужы Гэркал у пыл Антэя,
Як вецер валіць поўны калос да ральлі,—
Ўдыхнула моц у грудзі сына мацер Гэя,
І вось, цьвярды як дуб, ешчэ чым перш сільнее
Ён напружыўшыся, падняўся ўраз з зямлі.

Паломаны жыцьцём, чэкаючы магілы,
Радзімая зямля, прынікнуў я к табе,
І бодрасць ты ўліла ў слабеючые жылы,
Зварушыла маей душы дрэмаўшай сілы,
І мейсца ў ёй с тых пор німа ўжо больш жальбе.

* * *

Бледны, хілы ўсё-ж люблю я
Твой і мудры і кіпучы верш, Анакрэон!
Ен у жылах кроў хвалюе,
Ў ім жыцьцё струёю плешчэ, вее хмелем ён.

Верш такі,—як дар прыроды—
Вінаграднае, густое, цёмнае віно:
Дні ідуць, праходзяць годы,—
Але ўсё крапчэй, хмяльнее робіцца яно.

* * *

...passe sans laisser même
Son ombre sur le mur.

*V. Hugo.*

Жывеш ня вечна, чэлавек, —
Перажыві-ж у момэнт век!

Каб хвалювалося жыцьцё,
Каб больш разгону ў ім было,
Каб цераз край душы чуцьцё
Не раз, не два цайшло!

Жыві і цэльнасьці шукай,
Аб шыраце духоўнай дбай.

І ў напружэньні паўнаты
Свайго шырокага жыцьця
Бяз болю, ціха зойдзеш ты
Ў краіну забыцьця.

* * *

Мудрай прамовы
Мёд залацісты,
Поўныя соты
Мне да спадобы;

Але ня меней
Сэрцу панадны
Мёд сваім хмелем
Сьветлым і тонкім.

* * *

Дзе вы, лясоў, палёў цьвяты?
Вас холад загубіў!
Чаму-ж ён срэбные цьвяты
На гэтым шкле ўзрасьціў?

Ім, бледным, мёртвым не збудзіць
Былога пачуцьця,
Як не змагу яго збудзіць
Халодным вершам я.

* * *

Калі ў ракавіну цёмную жамчужніцы
Упадзе пясчынка хоць адна, —
Жомчугом патроху робіцца яна!
Калі ў дух мой западзе і заварушыцца, —
Там кавалак грубага жыцьця, —
У жомчуг звернецца ён сілай пачуцьця!

* * *

Сьвеча бліскучая зіяе,
Каб разступілася імгла;
Ў яе агню—краса жывая,—
Яна прыгожа і сьветла.

Ў блізі матыль дрыжыць ад болю
Прываблены з імглы агнём,
Ен рынуўся туды бяз волі
І сьмерць сваю спаткаў у ём.

Сьвеча гарыць. З яе ліецца
За кропляй кропля як раса,
А матылёк ужо ня бьецца:
Табе ахвяра ён, краса!

## ПЕСЬНЯРУ.

Ведай, брат малады, што ў грудзях у людзей
Сэрцы цьвёрдые бытцым с каменьня.
Разабьецца аб іх слабы верш заўсягды
Не збудзіўшы сьвятога сумленьня.

Трэба с сталі каваць, гартаваць гібкі верш,
Абрабіць яго трэба с цярпеньнем.
Як ударыш ты ім,—ён як звон зазьвініць,
Брызнуць іскры с халодных каменьнеў.

# Нізка вершоу „Вольные думы“.

Meine Bitterkeit kömmt nur aus den Galläpfeln meiner Dinte, und wenn Gift in mir ist, so ist es doch nur Gegenift.

*Heine.*

## ЎСТУП.

Я думы, ня скутые путамі,
Тут перэд вамі вываджу,
А проці ганеньня кажу:
Хваробы лечуць і атрутамі.

## ГУТАРКА С ПАНЕНКАМІ.

„Пабачце! Ластоўка малая
Для птушэнят гняздо зрабіла,
І клапатліва ўкруг летае,—
Аж паглядзець прыемна-міла!“

„Вельмішаноўные паненкі!
Тут ёсць напэўна трохі цуду.
Ў гняздзечку міленькім і сьценкі,
І дно яна зляпіла з бруду“.

* * *

Вы кажэце мне, што душа у паэта,
Калі спараджае ён дзіўныя вершы,
Нябесным агнём абагрэта,
І ў час той між люда ён—першы...
Ах, дзякуй Вам, дзякуй на гэтай прамове;
Душа мая, пэўна, шчасьлівай была бы,
Калі-б я ня ведаў, панове,
Што пекна сьпеваюць і жабы.

* * *

Вы панове, пазіраеце далёка,
Ў блеску сонца з вялізарных плеч народных,
Але святло крые шмат чаго ад вока:—
Днём не бачыце Вы зорак пуцеводных.

Загляніце же, будзь ласка, Вы у студню:
Ўжо даўно яна счарнела і згнівае,
Але дно яе і ў ночы і ў палудню
У вадзе люстранай зоры адбівае.

К тым, каго жыцьцё заціснуло глыбока
Ўніз, у норы падзямельные пад Вамі,
Вы, панове, хоць і бачыце далёка,
Загляніце ў душы—студні са сьлезамі.

* * *

Мы доўга плылі ў бурным моры,
І ўраз—жаданная зямля!
Вы пэўны пуць казалі зоры,
Зарука ў тым,—трэск карабля,
Што сеў на скалы ў змрочным моры.
Прывет жаданная зямля!
І безтрывожна бачуць зоры,
Як тонуць людзі с карабля.

* * *

Была калісь пара: гучэла завіруха
І замела маей мінуўшчыны сьляды.
Усціхла ўжо яна... Плывуць у даль гады,
А ўсё ня бьюцца скрыдлы духа:
    Куды цяперісці? Куды?

Ў душы гарыць агонь нуды,—пануры, чорны
Ці мне крыніцай сьлёз сваіх яго заліць
І плугам цяжкаго мучэньня сэрцэ ўзрыць?—
Мо ўзойдуць там надзеі зёрны!..
    Куды-ж ісці і што рабіць?

## МНЕ СЬНІЛОСЯ.

Ўсё вышэй і вышэй я на гору ўзбіраўся,
Падыймаўся да сонца, што дае нам цяпло:
Але толькі чым болей да яго набліжаўся,
Тым усё халадней мне і маркотней было.

Заскрыпеў сьнег сыпучы пад маімі нагамі,
І марозам калючым твар пякло ўсё крапчэй.
І пануры, прыстаўшы ўніз пайшоў я сьнегамі,
Сонцэ там хоць і далей, але грэе цяплей!

* * *

Шмат у нашым жыцьці ёсць дарог,
А вядуць яны ўсе да магілы.
І без ясных надзей, без трывог,
Загубіўшы апошніе сілы
Мы сайдзёмся, спаткаемся там
І спытаем сябе: для чаго мы
Па далёкіх і розных пуцях
Адзінока йшлі ў край невядомы?
І чаму пасьпешаліся так,
Напружаючы ўсе свае сілы,
Калі ціха паўзушчы чэрвяк
Усё ж дагнаў нас ля самай магілы?

# Нізка вершоу „Старая Спадчына“

Мы зерна древніе лелеемъ
Мы урожай столѣтій жнемъ.
*В. Брюсовъ.*

## ПЭНТАМЭТРЫ.

Чыстые сьлёзы з вачэй пакаціліся нізкай парванай,
Але, упаўшы у пыл, брудам зрабіліся там.

* * *

Хіліцца к вечэру дзень і даўжэйшымі робяцца цені;
З болем пад захад жыцьця ўспомніш пра гэтае ты.

* * *

З нізкаго берэгу дно акіяна вачам не даступна,—
Глуха укрыла яго сіняя цемень вады.
Але ўзбярыся ў гару на вяршыну прыбрэжнай страмніны,—
Кожны каменьчык на дне, пэўна, пабачыш ты стуль.

## НЕПАГОДАЮ МАЕВАЙ.

Падаюць вішняў цьвяты і разносіць іх вецер халодны;
Сьнегам у чорную гразь падаюць вішняў цьвяты.
Плачце, галіны, лісты! Загубілі вятры цьвет ваш родны,—
Некчаму болі вам жыць. Плачце, галіны, лісты!

# СОННЭТ.

(Ахвярую А. Погодіну).

Un sonnet sans défaut vaut seul un long poème.
*Boileau.*

Паміж пяскоў Егіпецкай зямлі,
Над хвалямі сінеючага Ніла
Ўжо колькі тысяч год стаіць магіла:
Ў гаршчку насеньня жменю там знайшлі.
Хоць зернейкі засохшымі былі,
Усё-ж такі жыцьцёвая іх сіла
Збудзілася і буйна ўскаласіла
Парой вясенняй збожжэ на ральлі.

Вось сымвол твой, забыты краю родны!
Зварушэны нарэшці дух народны,
Я верую, бязплодна не засьне,
А ўцерад рынецца, маўляў крыніца,
Каторая магутна, гучна мкне,
Здалеўшы з глебы на прастор прабіцца.

## СОННЭТ.

Ne ris point du sonnet, o critique moqueur
*С. Бов.*

На цёмнай гладзі сонных луж балота,
За сьнег нябёснай вышыні бялей,
Кругом паўсталі чашэчкі лілей
Між пачарнеўшых карэньнёў чарота.
Ўкруг плесьня, бруд,—разводзіць гніль сьпя-
кота,
А краскі ўсё-ж ня робяцца гразьней
Хоць там плыве парою сьлізкі зьмей
І ржаўчына ляжыць, як пазалота.
Цяпер давольна топкае багно
Гніль сотні год збіраючы, яно
Смуроднай жыжкаю узгадавала
Цьвятоў расістых чыстую красу.
Маліся ж, каб з літоўнасьці стрымала
Тут смерць сваю нязвонкую касу.

## ТРЫОЛЕТ.

Красавецъ юный тріолетъ.
*К. Фофановъ.*

Як птушка ў гібкіх трасьніках,
Стралою думка мільганула,
І ўраз жэ энікла, патанула,
Як птушка ў гібкіх трасьніках.
Ды ўсё-ж душа яе пачула
І ўжо пяе ў такіх славах:
„Як птушка ў гібкіх трасьніках,
Стралою думка мільгнула“.

## ТРЫОЛЕТ.

Калісь глядзеў на сонцэ я,
Мне сонцэ асьляпіло вочы.
Ды што мне цемень вечнай ночы.
Калісь глядзеў на сонцэ я.
Ніхай усе з мяне рагочуць
Адповедзь вось для іх мая:
Калісь глядзеў на сонцэ я,
Мне сонцэ асьляпіло вочы.

## РОНДО.

Узор прыгожы пекных зор
Гарыць у цемні небасхіла:
Вада балот, стаўкоў, азёр
Яго ў глыбі сваей адбіла.
І гымн сьпевае жабоў хор
Красе, каторую з'явіла
Гразь луж; напоўніць мгла прастор,
І ўстане з іх гарачы міла
Узор.

І сонцэ дальш, клянуць, што скрыло
Луж зоры днём. І чуе бор,
І чуе поле крэхат хілы,
Ды жаб ня ўчуць вышэй ад гор
Там, дзе чыясь рука зрабіла
Узор.

## ОКТАВА.

Як моцны рэактыў каторы выклікае
Між строк ліста, маўляў нябошчыкоў з магіл,
Рад раньш нявідных слоў —так цемень залівае
Зялёны, бытцым лёд, халодны небасхіл,
І праз імглу яго патроху праступае
Маленькіх, мілых зор дрыжашчы, срэбны пыл.
Здароў, радзімые! Мацней, ясьней гарыце
І сэрцу аб красе прыроды гаварыце!

## ТЭРЦІНЫ.

Есць чары у забытым, старадаўным;
Прыемна нам сталецьцяў пыл страхнуць,
Пажыць мінулым—гэткім мудрым, слаўным,—

Быцьцё дзядоў у смутку ўспамянуць.
Мы сквапна цягнемся к старым паэтам,
Каб хоць душой у прошлым патануць.

І вось звярнуўся я к рондо, соннэтам,
І бліснуў ярка верш пануры мой:
Як месяц зіхаціць адбітым сьветам

Так вершы з'яюць даўніх форм красой!

## ГРАМАДА ЗОРАК „КАРОНА“.

(«Metamorphoses» Овідзія, кніжка 8 я, вершы 178—182).

Бог Аппалон з галавы зняў карону і кінуў
у неба.
Ў сьветлым паветры яна пралетае; агнямі
малымі
Робяцца ў ёй на ляту ўсе каменьня кашт-
тоўные. Ў небі
Быццым карона-жэ між на каленях стая-
чаго Нікса
І паміж Цмока яна, затрымаўшыся, блешчэ
на мейсцы.

## С КРЫМСКАГО.

(Пэраклад з украінскай мовы).

Кажуць людзі бытцым творучы мужчыну
Бог зрасіў вадою высахшую гліну.
Але чорт падкраўся: выцісьнуўшы воду
Падмешаў ён сьлёзы ў нашую прыроду.

Нудзяць нас праз тое цягам смуткі, жалі,
І адзін ратунак каб яны маўчалі: —
Выплакаць іх шчыра, голасна ці ціха,
Каб з сьлезамі разам вылілося ліха.

Ох, мне з гэтым лекам ачуняці трудна,
Сьлёзаў я ні маю, а ў душы так нудна.
Ўжо яна згарэла, а не плачуць вочы,
Ўжо самлело сэрцэ, а плакаць ня хочэ.

## С ЧЭРНЯЎСКАГО.

(Пераклад з украінскай мовы).

Ўжо зноў не спаткаюцца тые шляхі,
Якімі ў жыцьцё выходзілі мы зраньня,
Мы ўсе пакляліся, маўляў жаніхі,
Да сьмерці ядынае меці каханьне.
А як разыйшліся—пакінулі нас
Заходы і думкі высокіе ўраз:
На іншые сьцежкі жыцьцё нас звертае,
Па своему кожны свой век пражывае,
У кожнаго неба і сонцэ свае,
Супольная ж праўды крыніца ня б'е.

## З ОЛЕСЯ.

(З украінскаго)

Пекла было тут у тую часіну:
Гром звар'яцеўшы стагнаў і равеў,
Білі вакол пяруны без упыну,
Ўвесь небасхіл то пылаў, то чарнеў.
Бура прайшла і людзей я пытаю, —
Што жэ зрабілося з роднаго краю?
Пэўна, руіны ў ім бура зрабіла...
Кажуць разбітую ліпу дабіла.
Думка! Калі я цябе выліваю
Ў слова халоднае, ў песьню сваю,
Гэткае-ж пекла ў душы сваей маю,
Паліць яна мне душу ўсю маю.
Што-ж, асцюжэная словам людзкім,
Ты нарабіла ў краю дарагім?
Можэ разбіла маркотную ліпу
Сьмерці прясіўшую ў нуднаму рыпу.

## АСТРЫ.

У поўначы астры ў саду расцьвілі,
Убраліся ў росы, вянкі заплялі,
І сталі ружоваго ранку чэкаць,
Ў вясёлку колёраў жыцьцё убіраць.
І марылі астры ў цудоўнаму сьне
Аб зёлках шаўкоўных, аб соўнечным дне,
І казачны край падыймаўся з іх сна
Дзе кветы не вянуць, дзе вечна весна...
Так марылі ў шэрую восень яны,
Так марылі астры і ждалі вясны.
А ранак спаткаў іх халодным дажджом,
І вецер стагнаў у саду за кустом.
І ўбачылі астры, што ўкруг іх—турма,
Убачылі астры, што жыць ім—дарма.
І ўмерлі яны. Але тут як на сьмех
Паднялося сонца, цалуючы ўсіх.

## У ВЕСЦЫ.

Lumen coeli, sancta rosa!
*А. Пушкинъ.*

Хвалююць сэрцэ нам дзявочые пастаці
I душы мацярэй нас могуць чараваці;
Вышэйшая краса—ў іх зьлітнасьці жывой!
Артысты-маляры схіляліся прад ёй
Жадаючы зьявіць цераз свае халсьціны
Пачуцьця мацеры у обліку дзяўчыны,
Красы тэй сымвалам, Маць-Дзева, стала Ты—
I глянулі Твае с пад пензэляў чэрты.
С таёмным трэпетам на іх я пазіраю,
А сэрцэ ўсё імкне да бацькоўскаго краю.
Мінулае сваё прыпамінаю я!
Між цёмных абразкоў прайшоўшаго жыцьця
Шукаю сквапна штось трывожнаю душою
I здарэньне адно ўстае перадамною.

* * *

Калісьці летняю рабочаю парой
Праз вёску я ішоў. Панураю чаргой

З абох бакоў крывой і вузкай вулкі хаты
Стаялі—шэрые, струхлеўшые; як латы
Віднеліся ў сьценах сьляпые вокны іх
І аж чарнелася салома стрэх гнілых.
Ўсё руйнавалося, старэло, адмірало
І мала што вакол хоць трохі аздабляло
Вясковую нуду; мак яркіе цьвяткі
Рожнакалёрные, як тые матылькі,
У градах высыпаў і цешыў імі душу,
Ды можна йшчэ было там-сям пабачыць грушу,
Крывую, старую.. вось толькі і ўсяго.
І да таго ж людзей ня відна нікаго,—
Яны на полі ўсё; не мелканець спадніца,
Ня пройдзе з вёдрамі па воду маладзіца,
Ня ўгледзіш белую магерку мужыка,
Ў паветры не памкне іржаньне жэрэбка
І песьня сумная не паліецца звонка...
Што ж дзіўнаго, калі, раптоўна крык дзяцёнка
Пачуўшы, дрогнуў я і агля дзеўся. Ах!
Я спудзіў хлопчыка; на руках і нагах
Ен, бедненькі, папоўз па траўцы ля сцяжынкі
Да нянькі траплячы—так год васьмі дзяўчынкі.
І вось, дабраўшыся, ў падолак разам з ей
С трывожным голасам уткнуўся ён хутчэй

І як схіляецца ад ветра верх бярозкі,
Дзяўчынка к хлопчыку нагнулася і сьлёзкі
Сьціраючы яму, штось пачала казаць,
Каб заспакоіць плач—зусім, як бытцым маць.
І саліваліся ў жывы абраз адыны
Той выгляд мацяры ды з облікам дзяўчыны—
Дзіцячым, цененькім; і ў гэты час яна,
Здавалося, была аж да краёў паўна
Якойсь шырокаю, радзімаю красою,—
І, помню, я на міг пахарашэў душою.
А можэ не краса была ў дзяўчынцы той,—
Дзяўчынцы ўпэцканай, і хілай, і худой,—
А штось вышэйшае, што Рафаэль вялікі
Стараўся выявіць праз Маці Божай лікі.

* * *

Страніца лепшая ў штодзённіку жыцьця!
Зноў с ціхай радасьцю цябе чытаю я.
Хай шмат чаго с тых гадоў крыніца змыла
У памяці маёй, хай той дзяўчынкі мілай
Ўжо облік губіцца у цёмнай глыбіне,—
Я веру, ў цяжкі час ён гляне на мяне.

## Вэроніка.

### (Вершаванае апаведаньне).

„E un pensier del mio capo"
(Яна—выдумка маей галавы)
*(Джіованьні).*

Я на душы васковай маю
Жыцьця мінулаго печаць: —
Схачу свой вольны верш пачаць, —
І ўраз пра прошлае згадаю;
У даль вядуць мяне сьляды
Да вас, дзіцячые гады.

Ўстае перад маім паглядам
І вулка, веючая сном,
І ціхі, старасьвецкі дом
С цяністым, адзічэлым садам:
Над ім шпакоўніца ў гары,
А ўкруг схіліўся тын стары.

Дом гэты да паноў Забеллаў,
Суседзяў нашых, належаў;

Я змалку там што дзень гуляў,
З дзяцьмі іх лез на дахі сьмела,
Рваў яблыкі, рабіў садом
І крыкам поўніў цэлы дом.

Вясёла йшлі гулянкі нашы:
Пад шум і гук размах рукі
Ўраз „браў на вынас" гарадкі,
Быў чутны сьмех пры відзе „кашы",
І кожны стрымываў свой плач,
Калі ўрэзаўся ў плечы мяч.

А вечарком мы выпускалі
Ў паветрэ белых галубоў:
Зрабіўшы некольні кругоў
У вышыню яны шыбалі,
Як чысты сьнег кружылі там
І падалі на дахі к нам.

І змалку шчыра палюбіла
Хавацца ў сад стары яна,
Дзе веяло дыханьне сна
І цішына ў паветры плыла,
І нерухомы быў, спакой
Маўляў у глыбіне марской.

Не калыхнуцца лісьцяў хвалі
Ўспляснуўшы пенаю цьвятоў

Паверх чарэшневых кустоў;
Кіпіць шум места дзесь там далі,
А тут і глуха і цямно, —
Не зварухне марское дно.

І забывала Вэроніка
Між зёлак с кніжкай аба ўсём,
А ўзгляне,—сад кіпіць жыцьцём,
Над ёю куст шыпшыны дзікай,
Бруяе блізка сонны шмель
І горка пахне тонкі хмель.

Калі-ж сачыўся бледнаваты
Зор сініх сьвет праз небасхіл
І уплетаўся вулак пыл, —
Мы ўсе пеялі каля хаты,
І напаўняў нягучны хор
Маркотнай песьняй сціхшы двор.

Так у гулянках пралетала
Маё дзіцячае жыцьцё,
А поруч ціхае дзіцё
Дачка Забеллаў узрастала.
Яе я мала знаў: яна
Ўсягды была сама, адна.

Жылося цяжка Вэроніцы
(Хай так дзяўчыну будзем зваць):

Яе памерла рана маць
І не было саўсім сястрыцы
А бацька сэрцэ хоць і меў
Ды прытуліць яе ня ўмеў.

Ізноў страніца за страніцай
Раскрытай кнігі шэлясьціць
Нячутна час кудысь бяжыць,
Раяцца думкі Вэронікі
Усё расьце душа яе
І ў паўнаце красы ўстае.

Калі-ж васенные навіны
Зьменялі сад, калі з бяроз
Рваў лісьця вецер, [illegible] мароз,
Наліўшы ягады рабіны,
Траву губіў, і мы нагой
Ўзрывалі прэлых лісьцяў слой.

Калі патроху чырванелі
Чаромха, ліпа, стройны клён,
А гнёзды змрочные варон
Між голаго гальля чарнелі,
І грозны вечэра пажар
Пылаў між бура-шызых хмар;

Калі васенны вецер дзіка
Стагнаў і глуха па начах

Грымеў у наш жалезны дах, —
Тады да лета Вэроніка
Ад нас знікала у інстытут
І не будзіла згадак тут.

А час усё каціўся далі
Хаваючы на дне гадоў
І гарадкі і галубоў,
Мы панямногу падрасталі
А іншы ўжо шчыпаў вусы
І лічыў іх гарой красы.

І толькі ўжо тады я ўгледзіў
Што поруч, як цьвяток лясны,
Ўзрасла ў красе сваей вясны
Дачка самотная суседзяў
І,—помню я,—тады жэ ўперш
З маей душы паліўся верш.

Ен там кіпеў струёй жывою
Праз холад мысьлі працекаў
І ў цьвёрдых формах застываў,
Як воск гарачы пад вадою,
Каторым трэба вам гадаць
Аб чым той вершык меў казаць.

Яж сам скажу йшчэ тое толькі
Што к Вэроніцы твор паслаў

І млеў, і ўсё адказ чэкаў.
Аж вось прайшло маруды колькі
Трывожных дзён, а ўсё німа
Ні Вэронікі, ні пісьма.

Калі-ж я неяк з ёй спаткаўся
Загаварыўшы, як у сьне,—
Яна зірнула на мяне
І раптам з вуст яе сарваўся
Такі бязвінны, чысты сьмех,
Што на яго злавацца,—грэх.

Сьмех гэткі маюць толькі дзеці
Ды людзі з яснаю душой;
І ён, як жаваронак той,
Зьвінеў і ўжо каханьня сеці
Нячутна вішчыў, як ураз
Сарваўся, дрогнуў і пагас.

Накрыла ясны твар дзявочы
Задумы сумная імгла,
На плечы ручка мне легла,
Спагадліва зірнулі вочы
І даляцеў к маім вушам
Ласкавы шэпт: „Мо прыкра вам?"

Не, зорка, мне было ня прыкра,
Бо бачыла адно душа,—

Як ты сьвежа і хараша,
Як рада ты жыцьцю нявольна
Уся пад срэбнаю расой
Са ўстужкай скромнай між касой.

І мела дзеўчэ выгляд маці
Калі тады ка мне яна,
Трывожнай ласкаю паўна,
Схілілася як да дзіцяці
Зіяючы перэдамной
У новай пекнасьці жывой:

У тэй, што з постацьцю дзяўчыны
Зьлівала мацеры чэрты.
О, як прыгожы—дзіўны ты
Двайной красы аблік ядыны!
Ажыў у ім твой вечны цэль,
Мадонн тварыцель, Рафаэль!

І прэд высокаю красою,
Увесь зачараваны ёй,
Скланіўся я душой маёй
Натхненнай, радаснай такою,
А ў сэрцы хораша было, —
Там запалілося цяпло.

Дасюль ешчэ яно пылае;
Здаецца—ўмёрло, але ўраз

Праб'ецца зноў і пройшлы час
Прад ім у згадках праступае,
Як пры агню чы цеплаце.

І конь крылаты да Парнаса
Мой дух імчыць тады, каб я
Былое апеваў пасьля.
Ды як знайсьці сьляды Пэгаса
На бруку места? Цяжка ўперш!
Спачынь жэ трохі, верны верш!

# Змест.

**Нізка вершоў „У зачараваным царстві“.**



**Нізка вершоў „Згукі Вацькоўшчыны“.**

**Нізка вершоў „Старая Беларусь“.**



**Нізка вершоў „Места“.**



**Думы.**

**Нізка вершоў „Вольные думы“.**



**Нізка вершоў «Старая Спадчына»..**



**Мадонны.**

Праз карэктарскі недагляд у кніжцы зроблена шмат друкарскіх абмылак Не маючы вольнага мейсца папраўляем толькі адну: у паэме «ВЭРОНІКА» пасьля 5 штрофы трэба паставіць 9, 10 і 11 штрофу. Просім чытачоў зауважыць гэта.

ВЫДАВЕЦТВО

| | | Руб. | к. |
|---|---|---|---|
| 36 | У дому лепей—Новіча . . . . . . . | — | 4 |
| 37 | Дзядзька Голад,—Віткевіча . . . . | — | 2 |
| 38 | „Маладая Беларусь". Сэрыя І-я Сшытак І-шы . . . . . . . . . . . | 1 | — |
| 39 | „Маладая Беларусь" сшыт. II . . | 1 | — |
| 310 біс | Зборнік «Нашай Нівы» № 1 . . . | — | 15 |
| 311 біс | Зборнік «Нашай Нівы» № 2 . . . | — | 20 |
| 312 | Амэрыканец—А. Новіча . . . . | — | 10 |
| 313 | Бярозка і др.—Ядвігіна Ш. . . . | — | 5 |
| 314 | Беларускіе казкі . . . . . . . . . | — | 5 |
| 315 | Хілібэртава пакута, Амфітэатрова | — | 5 |
| 316 | Апаведаньня, Тараса Гушчы . . . | — | 10 |
| 317 | Abrazki—Zmitroka Biaduli . . . . | — | 15 |
| 318 | „Маладая Беларусь". Сэр. 1. Сшыт. 3. | 1 | — |
| 319 | Колядная пісанка 1913 г. . . . . | — | 15 |

## IV. Вершы.

| | | | |
|---|---|---|---|
| 41 | Вязанка, Я. Лучыны . . . . . . | — | 4 |
| 42 біс | Тарас на Парнасе . . . . . . . . . | — | 5 |
| 43 | Дзед Завала, Ядвігіна Ш. (разыш) | — | 5 |
| 44 | Снапок, зборнік вершоў А. Паўловіча | — | 15 |
| 45 | Адвечная песьня, абраз у XII зьявах Я. Купалы . . . . . . | — | 20 |
| 46 | Песьні жальбы, Якуба Коласа . . | — | 30 |
| 47 | Huślar, zbornik wieršou J Kupały . | — | 50 |
| 48 | Кацярына, Т. Шэвчэнкі . . . . . | — | 10 |
| 49 | Жалейка. Зборнік вершоў Я. Купалы . . . . . . . . . . . . . | — | 50 |
| 410 | Pan Tadeuš, A. Mickiewiča, pierek. Marcinkiewiča . . . . . . . . . | — | 25 |
| 411 | Hapon, apowieść Marcinkiewiča . . | — | 15 |
| 412 | Wiečarnicy, apowieści Marcinkiewiča | — | 15 |
| 413 | Ščeroŭskije dažynki, Kupała. Marcinkiewiča . . . . . . . . . | — | 20 |
| 414 | Dudka biełaruskaja. M. Buračka . . | — | 15 |
| 415 | Smyk biełaruski S. Reŭki . . . . | — | 20 |
| 416 | Batrak. Jak Jurka zababacieŭ—Jakuba Kołasa . . . . . . . . . . . | — | 10 |
| 417 | Pieśni—Ciški Hartnaho . . . . . . | — | 15 |

| | | р. | к. |
|---|---|---|---|
| 418 | Сон на кургане—Янкі Купалы . . | — | 50 |
| 419 | Cużyk Biełaruski. Haljaša Leŭčyka | — | 30 |
| 420 | Шляхам жыцьця—Я. Купалы, с партрэтам аўтара . . . . . . . . | 1 р. | 25 |
| 421 | Вянок, зборнік верш. М. Богдановіча | — | 50 |
| 422 | Apawiedańnie i lehiendy wieršam . | — | — |
| 423 | Kantyčka. Без апраавы 10 к. у аправе | — | 15 |

**V. Беларускіе тэатральные творы.**

| | | | |
|---|---|---|---|
| 51 | Модны шляхцюк, камэдыя у I дзеі Каганца . . . . . . . . . . . | — | 25 |
| 52 | У зімовы вечэр. Абраз Э. Ожэшко | — | 35 |
| 53 | Хам. Абраз Э. Ожэшко . . . . . | — | 70 |
| 54 | Сватаньне. Жарцік Чэхова . . . . | — | 25 |
| 55 | Мядзьведзь. Жарцік Чэхова . . . | — | 30 |
| 56 | Міхалка. Камэдыя у I дзеі Кропіўніцкаго . . . . . . . . . . . . | — | 35 |
| 57 | Па рэвізіі. Абраз у I дзеі Кропіўніцкаго . . . . . . . . . . . . | — | 35 |
| 58 | Пашыліся у дурні. Жарцік Кропіўніцкаго у 3 дзеях . . . . . . . | — | 60 |
| 59 | Як яны жаніліся. А. Валодзькаго . | — | 30 |
| 510 | „Паўлінка", кам. у 2 дз. Я. Купалы . | — | 75 |

**VI. Беларускіе музыкальные творы.**

| | | | |
|---|---|---|---|
| 61 | Беларускі песеньнік з нотамі . . | — | 15 |
| 62 | Biełaruskije pieśni z notami. I čaść. A. Hryniewič . . . . . . . . . | — | 30 |
| 63 | Biełaruskije pieśni z notami. II čaść. A. Hryniewič i A. Ziaziula . . | — | 25 |
| | Беларускіе песьні разложэные на 4 галасы; адна песьня у 4 галасох 10 кап., кожны голас 3 кап. | | |
| 64 | Чамуж мне ня пець. 65 Ой ляцелі гусі. 66. Дый кудыж ты. | | |
| 67 | Ой пайду я лугам. 68 Ды ўжо сонейка. | | |
| 69 | А хто там ідае? Я. Купалы, муз. Рогоўскаго . . . . . . . . . . | — | 10 |

---